На вул. Субоч № 6 зачадзелі Міхля і Фаня Кацэнэльбоген. Іх так сама удалося адратаваць.

— **Труп дзіцяці.** 6 лютаго, а ½6 гадз., процi дому № 4 пры Ашмянскай вул. знайшлі труп толькі-што нарадзіўшагося дзіцяці.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 4 на 5 | —14° | —17° |
| „ з 5 на 6 | — 8,° | —20° |
| „ з 6 на 7 | — 6° | —15° |

## Апавешчэньне.

Выпаўняючы загад п. Глаўнакамандуючаго 10 Арміей, адбудзецца ў сераду, 14 лютаго 1917 г., агляд каней на Лукішскім пляцу.

Кожын, у каго ёсць конь у межах меставаго павету Вільні, павінен у гэты дзень роўна а 7 гадз. раніцай прывесьці дзеля агляду камісіей усе свае коні.

За неспаўненьне гэтаго карацімуць вастрогам да 6 месяцоў, або штрафам грашмі да 6000 марак. Апрыч таго непрыведзеных каней будуць конфіскаваць.

Пры аглядзе кожнаму каню стаўляецца клеймо.

Вільна, 5 лютаго 1917 г.
Der Deutsche Stadthauptmann
**Pohl.**

## Апавешчэньне.

Жыхары Краю ізноў апавешчаюцца, што на крык варты і жандароў „halt!“ (стой!) яны павінны без ніякай споркі падчыняцца, бо пры неслухмянасьці проці іх — паводлуг загаду — будзе ужыто аружжэ.

Вільна, 4 лютаго 1917 г.
Der Deutsche Stadthauptmann.
Polizeiverwaltung.
**Pohl.**

## З усяго Краю.

**Літоўскіе вучыцельскіе курсы.**

МАР'ЯМПОЛЬ. 15 марца ў Мар'ямполі аткрываюцца вучыцельскіе курсы для маладых літоўскіх вучыцелёў. Курсы будуць трываць 3–4 месяцы. Прынімаюцца маладые літвіны (не літвінкі), каторые скончылі народную школу, або некалькі класоў сярэдняй ці вышэйшай школы.

**Права лоўлі рыбы.**

ОЛІТА. У мерэчскім паветовым урадзе 15 лютаго а 9 гадз. раніцай адбудзецца здача у арэнду права на лоўлю рыбы ў вазёрах і праточных водах павету.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

**Міністэрскі крызіс.**

ЖЭНЕВА. С Пецярбурга даносяць, што навейшы расейскі міністэрскі крызіс разаўецца толькі пасьля раз'езду конфэрэнції саюзьнікоў. Намесьнікам Голіцына называюць высокаго чыноўніка, на каторага будзе ўзложана задача нанова устанавіць зносіны з Думай.

**Палажэньне Голіцына.**

ЛУГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга, што Голіцын чуецца заморэным і бязсільным кіраваць правіцельствам з Думай ці бяз Думы. Яго намесьнікам лічаць Трэпова. У такім прыпадку міністэрство фінансоў возьме ў свае рукі Покровскій, а Сазонов, каторы ўсё ешчэ ня выехаў у Лондон, будзе міністрам загранічных спраў. За тое Протопопову дадуць адстаўку.

**За новые выбары.**

КОПЭНГАГА. «День» пішэ, што Протопопов дамагаецца роспуска Думы, як скончыцца гэта сэссія, бо спадзяецца, што новые выбары дадуць больш правую думу, чым цяперашняя.

**Экономічные справы.**

ШТОКГОЛЬМ. «Русск. Сл.» даносіць, што на заседаньні Харкоўскаго губэрскаго земства разсавалі палажэньне сельскаго гаспадаркі ў Расеі вельмі цёмнымі фарбамі. У Харкоўскай губэрні абшар пасевоў у 1916 гаду паменшаў на 12%.

**Выдаткі на вайну.**

МАСКВА. «Русск. Сл.» пішэ, што міністэр фінансоў Барк меў гутарку з журналістамі аб палажэньні фінансоў у Расеі. Штодзенные ваенные выдаткі даходзяць цяпер 40 мільёноў руб. Ад пачатку вайны ваенные крэдыты дайшлі 28 мільярдоў. Журналісты сказалі, што газэты лічаць сваей павіннасьцю выступаць проці выпуску паперовых грошы без пазваленьня Думы.

**Амэрыканскіе апэтыты.**

ПЕЦЯРБУРГ. «Русск. Інв.», офіцыоз ваеннаго міністэрства, жаліцца на прагавітасць амэрыканскіх банкіроў, каторые адмовіліся прыняць падпіску на новую расейскую пазыку паводлуг курсу 94 руб. (за 100).

**Недахватка вагоноў.**

КОПЭНГАГА. На станціі Алтай, як пішуць маскоўскіе газэты, ляжыць 60 мільёноў кілёгр. мяса, катораго нельга пасланць далей с прычыны недастачы вагоноў. С прычыны таго, што мяса загадзя не пасалілі, яно можэ папсавацца.

**Атврыцьцё біржы.**

ПЕЦЯРБУРГ. Тутэйшая біржа, закрытая ад дня аб'яўленьня вайны, аткрылася ізноў, пры чым быў міністэр фінансоў Барк.

**Новы ўзрыў.**

КОПЭНГАГА. Расейскіе газэты апісваюць новы ўзрыў у Архангельску. Аграмадные ўзрывы ішлі адзін за адным. Агонь перакінуўся з аднаго пакгаўзу на другі. Ўзрывамі зруйнаваны партовые будоўлі, пабудаваные ў часі вайны. Чысло забітых надта вялікае, бо нешчасьце здарылося ў рабочы дзень. Шмат пацярпелі і затанулі 6 англіцкіх параходаў.

**Новая пошасць.**

МАСКВА. „Русск. Вед.“ пішуць, што ў ваколіцах Ростова на Доне паявілася незнаная хвароба, якая шыбка пашыраецца. На шыі і пад пахамі у хворых з'яўляецца пухліна. Трупы чарнеюць. С прычыны недастачы дактароў змагацца с хваробай вельмі цяжка.

**Заручыны царскай дачкі.**

ШТОКГОЛЬМ. Румынскі насьледнік, будучы ў Царскім Сяле, заручыўся са старшай царскай дачкой.

## З усяго сьвету.

**«Весна малых народоў».**

БРУССЭЛЬ. У апошнюю нядзелю тут адбылася нарада больш двохсот прэдстаўнікоў усіх палітычных груп флямандзкаго народу. Сабраўшыеся ў адзін голас выступілі за поўную аўтономію флямандзкаго народу і уставілі „раду Флямдрыі“, каб дайсьці гэтай мэты. Усемі галасамі прынята адозва да флямандзкаго народу, ў якой тлумачацца думкі і мэта рады.

**Зьмена габінэту ў Турэччыне.**

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ Вялікі вэзыр Саід-паша папрасіў і атрымаў адстаўку. Міністэр унутрэных спраў Талаат-бэй назначэн на мейсцо вяліkaго вэзыра.

Новае міністэрство будзе дзяржацца старой палітыкі: ваяваць далей да аканчацельнай пабеды.

**Недастача вугля.**

ПАРЫЖ. Каб зберэгчы вугаль, правіцельство загадало на чатыры дні ў тыдні зачыняць тэатры, кінэматографы і іншые падобные установы і заканчываць местовы жалезнадарожны рух а 10 гадз. вечара.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

5.ІІ. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Між Анкр і Соммай пры сільным агню артылерыі на паадзінокіх адрэзках былі пешые бітвы. Контратакай англічане выкінуты з большай часьці занятых імі акопоў на ўсходзі ад Бокур. Узяты ў палон 100 душ. Паабедзі па поўначы ад Бокур адбіта сільная англіцкая атака. У начы былі новые штурмы вялікімі сіламі проці нашых пазыцій на ўсходзі ад Гранкур і на поўдні ад Кісс. На палудні ад Соммы ўзяты ў палон 20 французоў і англічан у лініях ворагоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Пры Нараёўцы адбіта агнём расейскіе патрулі.

На фронтах эрц-гэ цога Іозэфа і Макензэна палажэньне, наагуля, без перамен.

На Македонскім фронці нічога новаго.

6. ІІ. **Заходні тэатр.**

С прычыны імглістай, марозьлівай пагоды баевая чыннасьць артылерыі і лятуноў была незначная. У патрульных опэрацыях у ваколіцах Соммы, на ўсходнім беразі Маасу і на граніцы Лётарынгіі ўзяты ў палон 30 англічан і французоў, здабыты некалькі кулемётоў.

**Усходні тэатр.**

Ад Рыжскаго узбярэжжа да усьця Дунаю—без выдатных здарэньнёў.

*Македонскі фронт*: Ад часу да часу вострьі агонь у завароці Чэрнай і ў даліне Струмы.

7.ІІ. **Заходні тэатр:**

Толькі на нячысьленых адрэзках баевая работа была вялікшая, чым звычайна. На палудзенным заходзі ад С-Гэйм адбіта атака французкай роты. Узяты палонные. У патрульных опэрацыях на узбярэжжы мора, набаапол Анкр, пад Вэрдэнам і ў лесі Паруа ўзяты 60 палонных і 3 кулемёты.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: На Бярэзіне нашы патрулі ўварваліся на ліній ворагоў і вярнуліся с палоннымі—50 салдатамі і 2 афіцэрамі, ды здабыўшы 9 мінамётаў. Ля дарогі Ковэль—Луцк патрулі ўзялі 18 палонных і 1 мінамёт.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: На паўночным усходзі ад Кірлі-Бабы адбіты роты ворагоў.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На Путне і Сэрэці агонь артылерыі крапчэў. Ішлі патрульные бітвы.

*Македонскі фронт*: У завароці Чэрнай і наабапол Вардару момэнтамі востры агонь.

**Аустрыяцкае апавешчэньне.**

ВЕНА 5.ІІ. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** На заходзі ад Плекэн наш атрад уварваўся на пазыцію ворагоў, узяў 1 афіцэра, 28 салдатоў, 1 кулемёт і 1 мінамёт.

## Разрыў між Амэрыкай і Нямеччынай.

БЭРЛІН. Амэрыканскі пасол зажадаў выдачы пашпартоў і атрымаў іх.

ЛОНДОН. Нямецкаму паслу ў Вашынгтоне, гр. Бэрнсдорффу, аддалі яго пашпарты.

НЬЮ-ІОРК. У портах Злучэных Штатоў знаходзіцца нямецкіх торговых параходаў на 423,000 тонн ёмкасьці.

ГОНОЛЮЛЮ. Нямецкіе матросы з нямецкай канонеркі «Geier» падпалілі сваю канонерку, каб яна не папала ў амэрыканскіе рукі.

ВАШЫНГТОН. У Палац Прэзыдэнта прыходзіць вельмі многа тэлеграм і пісем, якіе жадаюць захаваньня міра.

У Нью-Іорку адбыліся вялізарные дэмонстрацыі за мір. Брайан, конкурэнт Вільсона ў часі выбароў прэзыдэнта, сказаў пры праўдзівай буры оплесков: „Ніхай Бог усьцеражэ нас ад вайны з Нямеччынай!“

МАНІЛЬЛЯ. Нямецкіе параходы ў портах Філіпінскіх астравоў арэштаваны.

ВАШЫНГТОН. Вільсон меў нараду з марскім і ваенным міністрамі аб праектах законоў, паводлуг каторых правіцельству даецца права ў патрэбі рэквізаваць вэрфі, фабрыкі снарадоў і іншых ваенных матэр'ялоў.

Вільсон выдаў апавешчэньне, што валадзельцам параходаў забараняецца аддаваць іх чужым дзержавам.

Ваенная праграма Злучэных Штатоў гэткая: што-году вучыць 2 мільёны салдатоў, завясьці ваенную павіннасць, організаваць выраб снарадоў і шыбчэй закончыць будову ваенных параходаў.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Ваенны міністэр загадаў за ўсе ваенные крэдыты закупляць ваенные запасы.

Усе станції тэлеграфу бяз дроту знаходзяцца цяпер пад ваенай цэнзурай.

ЛЮГАНО. З Вашынгтону даносяць:

Маршалак камісіі дзеля загранічных спраў сказаў у парлямэнці, што пры першым затапленьні амэрыканскаго карабля падводнай лодкай будзе уложэно аб'яўленьне вайны і зроблены адпаведные крокі.

НЬЮ-ІОРК. Брайян выдаў проклямацію за удзержаньне міра. Ен кажэ, што, калі вайны абмінуць нельга, дык аб аб'яўленьні вайны трэба зрабіць усенароднае галасаваньне.

ПАРЫЖ. Соцыялістычны «Journale du Peuple» кажэ, што вайна проці прускаго мілітарызму нарадзіла амэрыканскі мілітарызм.

ПАРЫЖ. „Journale de Debats" пішэ: „Амэрыканскае войско і флот не пэрэцягнуць вагі. Амэрыканскае выступленьне дае нам толькі моральную паддзержку".

ГААГА. На заседаньні голандзкай Ніжняй Палаты міністэр загранічных спраў, Ліндэн, сказаў: „Правіцельство занято сур'ёзнымі справамі. Аб падробнасьцях пакуль-што гаварыць нельга. Німа асаблівых прычын непакоіцца".

БЭРН. Прэзыдэнт Вільсон звярнуўся да Швэйцарыі с прызывам прылучыцца да Амэрыкі проці Нямеччыны. Швэйцарскіе газэты на гэта атказываюць, што палажэньне Швэйцарыі — адменнае ад палажэньня Амэрыкі, і Швэйцарыя хочэ цьвёрда дзержацца нэутральнасьці.

АМСТЭРДАМ. Прэзыдэнт Вільсон звярнуўся да нэутральных гасударотв з прызывам прылучыцца да пратэсту проці Нямеччыны с прычыны крокоў яе проці таргоўаго марскога руху нэутральных.

## Фіаско Вільсона.

БЭРН. Апрыч вельмі нячысьленых газэт, парыжская прэсса думае, што **нэутральные ня пойдуць сьледам за Амэрыкай**, бо нэутральным дзержавам ёсць вялікая карысць захаваць дружбу с цэнтральнымі гасударствамі.

ЦУРЫХ. «Poste» пішэ, што Амэрыкі ніхто не ўпаўнамочыў выступаць на зашчыту агульнай карысьці нэутральных. Амэрыка выступіла толькі апіраючыся на сваіх амэрыканскіх інтэрэсах, нязгодлівых з інтэрэсамі эўропэйскіх дзержаў. Вільсон утраціў цяпер право выступаць ад імі тых, хто стаіць за чэлавечнасць.

КОПЭНГАГА. Паведамляюць с пэўнай крыніцы, што ў атказе даньскаго правіцельства Вільсону будзе сказано, што палажэньне Амэрыкі зусім іншае, чым палажэньне Даніі, і іх нельга раўнаваць.

Усе тры скандынаўскіе дзержавы вядуць у Штокгольмі перэгаворы, каб усім разам прэдлажыць Нямеччыне некаторые перамены ў установленых ею правілах блокады.

РОТТЭРДАМ. «Courante» пішэ, што Голандія не разарве дыплёматычных зносім с цэнтральнымі дзержавамі, а пачне перэгаворы аб блокадзе.

ЖЭНЕВА. «Petit Journale» даносіць, што гішпанскі кароль стаіць за нэутральнасць Гішпаніі, бо ён усё ешчэ мае думку сазваць мірны конгрэсс у Мадрыдзе.

МАДРЫД. „Diario Universale" вітае гішпанскае правіцельство с прычыны таго, што яно не паддзержало ноты Вільсона аб міры. Дзякуючы гэтаму для Гішпаніі німа ніякай патрэбы паддзержываць і новаго кроку Амэрыкі. „Мы спадзяемся, што нам і надалей удасцца удзержаць поўную нэутральнасць, як дагэтуль".

КОПЭНГАГА. «Ekstrabladet» разрыў між Амэрыкай і Нямеччынай называе здрадай малых гасударств.

ШТОКГОЛЬМ. «Dagbladet» кажэ, што палітыка Вільсона—поўна парадоксоў. Гісторыя калісь не здалее апраўдаць паступкоў правіцельства Амэрыканскіх Злучэных Штатоў.

## БЛОКАДА АНГЛІІ.

ГААГА. Голандзкае правіцельство забараніло голандзкім параходам езьдзіць у Англію.

### Грэцкая трагедія.

АФІНЫ. (Рэўтэр). Англіцкі і францускі паслы вялі перэгаворы з міністрам загранічных спраў с прычыны невыпаўненьня ўсіх дамаганьнёў саюзьнікоў. Ёсць надзея на змякчэньне блокады, пасьледзтвы каторай робяцца ўсё болей і болей сур'ёзнымі.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Minden.

Сінкевіч Юры, Н.-Вілейка.
Чэрнецкі Владыслаў, Воўкалаты.
Васілеўскі Пётр, Воўкарабіцкі.
Вэнцковіч Міхаіл, Бучырлін.
Анускевіч Язэп, Рэчкасоніно.
Барановіч Вячэслаў, Лойці.
Мінгіновіч Іван, Бамішчы.
Паўліковіч Язэп, Вільня.
Завадзкі Пётр, „
Шакун Грыгор, Аўгустово.
Селіваноў Александар, Вільня.
Богданоў Адольф, Кошэйкіно.

### Табор для ваенна-палонных Danzig-Troyl.

Лагер IV.

Тучкавіцкі Адам, Суботнікі.
Кулькуліс Міхаіл, Кольчуны.
Іотка Юстын, Петровічы.
Довнаровіч Сьцепан, Вільня.
Барлашэвіч Владыслаў, Кобелі.
Цэсіль Казімір, Інтуркі.
Трусэвіч Антон, Індрупка.
Барышнік Гонон, Вільня, Архангельск. вул. 5.
Сніпіскі Шлёма, Вільня, Ноўгародзкая вул. 3.
Зандлер Арон Бэнцэль, Вільня, Вакзальная 3.
Портноў Нахман, Вільня, Копаніца 14.

Лагер III.

Юрэвіч Язэп, Вільня, Андрэеўск. вул. 8.
Балтруковіч Язэп, Ворокоўчына.
Славін Ізраэль, Мядзёл.
Кацельнік Танхэль, Вільня, Сьв.-Юрскі 39.
Левін Ізаак, Вільня, Антоколь 79.
Іскі Ізуль, Вільня, Саф'янская 3.
Цепловіч Бэнціон, Паставы.
Чэрвякоўскі Мікалай, Вільня, Ясная вул.
Мурашко Ігнат, Трабы.

Лагер II.

Сінкевіч Андрэй, Літвіца.
Дайноўскі Язэп, Вільня, Вілкомірская вул. 60.
Войцеховіч Станіслаў, Вільня.
Васіловіч Дыомід, „
Колочка Язэп, Шольцін.

### Табор для ваенна-палонных I, Tr. Ueb. Pl. Münsingen.

Андрон Дзімітр, Русіны.
Боговіч Ігнат, Баяры.
Хотэлёвіч Лука Хвостово.
Каляда Харытон, Коўшэвічы.
Кухарэнко Сьцепан, Груздово.
Савон Андрэй, Барвічы.
Тамаш Ігнат, Ранікі.

### Табор для ваенна-палонных Wahn.

Абрамовіч Язэп, Войцехово.
Альхімовіч Мікалай, Іорэчкі.
Альхінёнак Александар, Чэркасы.
Амільяновіч Клімэнт, Воглі.
Анасовіч Калістрат, Кабулі.
Андрушкевіч Антон, Вільня.
Андрушкевіч Язэп, Гомікі.
Ахіновіч Антон, Кудзы.
Антоневіч Іван, Вільня.
Апанасэвіч Эдвард, Залессе.
Асевіч Владзімір, Соткішкі.
Авласёнак Тодар, Дворышчэ.
Боніслаў Казімір, Вільня.
Борэйко Ігнат, „
Борцішэвіч Мікалай, „
Вочанкоў Макар, Новопаўлоўка.
Бобутка Аболіс, Варчануі.
Байгот Іван, Забар'я.
Балясоў Іван, Галуроурдыштэі (?).
Балашоў Юльян, Дзенісаво.
Белый Сьцепан, Вільня.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.